www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 59 (3800)

30 ліпеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**АКТУАЛІІ**



*Святлана КАЛІНКІНА*

# У ролі цэрбера

**Прапаную перайменаваць пасаду міністра працы і сацыяльнай абароны.**

**Ну які абаронца нашых з вамі інтарэсаў міністр Марыяна Шчоткіна? Падтрымаць прэзідэнцкі дэкрэт аб забароне людзям звальняцца з дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў, пакуль там не скончыцца мадэрнізацыя, пасля якой, магчыма, павялічацца заробкі, — яна першая.**

**Тлумачыць, што дапамога па беспрацоўі ў памеры 15—20 долараў — гэта не здзек з людзей, якія не могуць знайсці працу, а сур'ёзныя разлікі сур'ёзных спецыялістаў, — яна не пачырванее.**

**Кантракты — сапраўдная пятля на шыі работнікаў — дазваляюць у любы момант звольніць любога чалавека без тлумачэння прычын. А міністр усё роўна выступае за такія кантракты.**

**Пенсіі, на якія многім немагчыма пражыць? Міністр лічыць, што трэба цярпець...**

**Ужо і да аплаты бюлетэняў дабраліся. Лета, людзі не надта хварэюць, таму многія яшчэ і не заўважылі, што іх і тут абабралі. Цішком. У цяжарных жанчын новы парадак аплаты "адрэзаў" ад дапамогі па цяжарнасці і родах амаль 200 долараў. Тое ж і з бальнічнымі.**

**Раней за першыя шэсць дзён хваробы чалавеку аплачвалі 80% заробку, за астатнія — 100%. Па новых правілах, 80% заробку будуць аплачвацца за 12 дзён хваробы. Акрамя таго, раней гэты самы сярэдні заробак разлічваўся за апошнія два месяцы, цяпер — за шэсць. Дурню ясна, што агульная сума пойдзе ў бок памяншэння.**

**Калі чалавек адпрацаваў менш за паўгода і захварэў, то ўвогуле застанецца з пустым кашальком. Бо аплата бальнічнага будзе залежаць не ад памеру зарплаты, а ад памеру бюджэту пражытачнага мінімуму, а калі дакладней — яго паловы... І гэта пры тым, што на гэты мінімум, таксама разлічаны ведамствам Шчоткінай, пражыць увогуле немагчыма.**

**Карацей, было "добра", а зрабілі яшчэ "лепш". Бо і раней сумы, якія мы атрымлівалі ў аплату бальнічнага, не ішлі ні ў якое параўнанне з коштам лекаў. А зараз, калі, не дай Бог, хвароба больш-менш сур'ёзная, многім зусім не будзе на што жыць.**

**Так, тыя, хто захварэў, не адпрацаваўшы і паўгода, атрымаюць... 46 тысяч рублёў. Прычым, гэта не журналісты падлічылі — гэта падлічылі афіцыйныя прафсаюзы. Як кажуць, і лячыся, і жыві, і прадукты купі для аднаўлення арганізма, і лекі эфектыўныя, і вітаміны — дзяржава ў асобе міністра Шчоткінай пра гэта паклапацілася.**

**Але цікава, ці ведае міністр, колькі сёння каштуюць тыя ж вітаміны, якія хвораму абавязаны выпісаць любы доктар? Дык вось: больш за 39 тысяч рублёў зараз каштуе звычайны "Унівіт", больш за 65 тысяч — "Унівіт-кардыё". І гэта не нейкія супер-пупер-таблетачкі, гэта самыя звычайныя полівітаміны беларускай вытворчасці.**

**Дык як "абаронца людзей" Марыяна Шчоткіна магла пагадзіцца на новы парадак аплаты бальнічных?! З якіх разлікаў яна сыходзіла, на якія нормы, неабходныя хаця б для падтрымання арганізма чалавека ў жывым стане, абапіралася?..**

**Сітуацыя не проста абуральная. Яна дзікая. Адабралі грошы ў хворых людзей, ведаючы, што ў нашай краіне хварэць — гэта і так вялікая раскоша, і нават нічога не патлумачылі!.. У якой краіне міністр, якога вымусілі пайсці на такі крок, не падаў бы адразу ў адстаўку?.. Але ў Беларусі мала хто здзівіцца, калі высветліцца, што ніхто міністру Шчоткінай рукі не выкручваў, што міністэрства сацыяльнай абароны само ініцыявала прыняцце такіх антычалавечых мер.**

**Па крайняй меры, афіцыйныя прафсаюзы менавіта так сітуацыю і падаюць. Яны сцвярджаюць, што ўвогуле не ведалі пра падрыхтоўку пастановы аб новым парадку аплаты бальнічных. Да іх, як высвятляецца, ніхто не звяртаўся, яны нічога такога не ўзгаднялі, хаця Міністэрства працы і сацыяльнай абароны хаця б фармальна абавязана было гэта зрабіць.**

**Сёння старшыня афіцыйных прафсаюзаў Леанід Козік усяляк дэманструе, што ніколі не падпісаў бы такі дакумент. Ён пагаджаецца, што на 46 тысяч рублёў не тое што хвораму — здароваму пражыць проста немагчыма. І задаецца рытарычным пытаннем: што ж такога страшнага здарылася ў краіне, калі спатрэбілася адабраць у людзей значную частку грошай на аплаце бальнічных лістоў?.. Іншымі словамі, выглядае так, што калі б міністр Шчоткіна не захацела змяняць стары парадак аплаты бальнічных, то Козік і афіцыйныя прафсаюзы былі б на яе баку. Але, наадварот, міністр спяшалася адрапартаваць, што яшчэ адна крыніца эканоміі сродкаў знойдзена.**

**Дык, сапраўды, што і калі здарылася ў краіне? Чаму сама назва — "Міністэрства працы і сацыяльнай абароны..." — цяпер успрымаецца як нейкая здзеклівая недарэчнасць? І пры ўзгадванні гэтага ведамства адразу ўспамінаецца савецкі анекдот пра барацьбу за мір, пасля якой не застаецца каменя на камені...**

**Каго і калі гэтае ведамства абараніла? Ці хоць раз міністр Шчоткіна сказала: "Не! Хопіць! Не сто скур у беларусаў, і няма ўжо чаго з іх здзіраць! Дзяржаве трэба спыняць бясконцыя святы з дарагімі парадамі, феерверкамі і высокааплатнымі "зоркамі"; згортваць будаўніцтва шматлікіх лядовых палацаў, стадыёнаў, самых розных клубаў; мужыкоў з арміі і міліцыі не адпускаць на пенсію ў самым росквіце гадоў, тады і грошы знойдуцца. Хопіць ужо абіраць людзей ды падманваць іх рознымі хітрыкамі!.."**

**Толькі не было такога, і пры Шчоткінай, напэўна, не будзе. Больш за тое, нават цяжка ўспомніць у гэтым ведамстве яшчэ аднаго міністра, які гэтак жа зацята бараніў бы не інтарэсы людзей, а інтарэсы дзяржавы, якая кожны рубель на пенсіі ды сацыяльныя дапамогі проста з кроўю ад сябе адрывае.**

**Загадана скараціць расходы — Шчоткіна скарачае, нягледзячы нават на тое, што часам пенсіі, дапамогі і іншыя сацыяльныя выплаты даводзіцца зразаць да сум абсурдна мізэрных, адкрыта здзеклівых — такіх, на якія проста немагчыма пражыць.**

**Проста нейкі цэрбер, а не міністр.**

**Нагадаю, Цэрбер — гэта ў грэчаскай міфалогіі трохгаловы раз'юшаны сабака, які ахоўвае выхад з пекла. Марыяна Акіндзінаўна, зразумела, не раз'юшаная і не трохгаловая, а, наадварот, жанчына разумная і прыгожая. Але падобна на тое, што на сваёй пасадзе яна ўжо простых людзей не бачыць. І як будуць жыць тыя, каго сваімі рашэннямі яна прыгаворвае да галоты, не задумваецца. Настолькі не задумваецца, што ўжо нават Козік не вытрымаў. Хаця які ўжо з яго "абаронца" людзей, вы і самі ведаеце.**

**РАКУРС**

# Людзі гублялі прытомнасць, але імкнуліся да святыні

*У Мінску адзначылі 1025-годдзе Хрышчэння Русі.*







З самай раніцы панядзелка на ўрачыстую літургію на месцы гістарычнага мінскага Замчышча сабраліся дзясяткі тысяч вернікаў з Беларусі і замежжа. Людзі жадалі паглядзець на Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла, убачыць крыж Андрэя Першазваннага. Паводле паданняў, на крыжы Х-падобнай формы быў распяты Святы апостал Андрэй.

Людзі прыходзілі пакланіцца святыні ды паўдзельнічаць у святочнай літургіі цэлымі сем'ямі. Нягледзячы на папярэджанні сіноптыкаў аб спякотным надвор'і, было шмат пенсіянераў і маленькіх дзяцей. Калі сонца пачало паліць нясцерпна, да ўрачоў "хуткіх", што дзяжурылі побач, пачалі звяртацца многія з прысутных. Нехта губляў прытомнасць, іншыя адчувалі, што ў іх падвышаецца ціск ці круціцца галава. На вачах карэспандэнта "Народнай Волі" "хуткая" павезла ў шпіталь пажылую жанчыну. Некаторыя вернікі пасля аказання ім першай дапамогі пакідалі месца святкавання. Асабліва стойкія займалі месцы на траве ці пад дрэвамі, але са свята не сыходзілі. Пашчасціла і тым, хто захапіў з сабой парасоны.

Разам з паломнікамі ў літургіі бралі ўдзел святары і вучні духоўных семінарый і школ. Многім з іх давялося некалькі гадзін стаяць пад спякотным сонцам з харугвамі ў руках.

Падчас свята арганізатары наладзілі продаж сувеніраў і падарункаў. Прычым далёка не кожны з іх меў рэлігійную тэматыку. Можна было набыць мэблю, упрыгажэнні, прадметы дэкору. Ежу і ваду можна было знайсці ў спецыялізаваных шапіках. Між тым многія з прысутных спецыяльна адмаўлялі сабе ў ежы. Жанчына сярэдніх гадоў тлумачыла дачцэ-падлетку, што той трэба яшчэ трошачкі пацярпець — трохдзённы строгі пост яны трымалі спецыяльна, каб спавядацца перад крыжом Андрэя Першазваннага.



Вось толькі крыжа на літургіі не было. Па невядомай прычыне планы змяніліся — Андрэеўскі крыж адразу даставілі ў Храм-помнік у гонар Усіх Святых і ў памяць бязвінна забітых у Айчыне нашай на скрыжаванні вуліц Каліноўскага і Усіхсвяцкай. Там святыня застанецца да 2 жніўня, а доступ да крыжа будзе кругласутачным.

Падчас літургіі святары прымалі споведзі ва ўсіх жадаючых непасрэдна на месцы. Арганізаваць людзей ім дапамагалі мужчыны ў цывільным. Дарэчы, меры бяспекі на свяце цяжка назваць беспрэцэдэнтнымі. Звычайнаму чалавеку трэба было толькі адкрыць на кантрольна-прапускным пункце сумку. Фота- і відэатэхніку ніхто і не думаў правяраць.

Літургія цягнулася некалькі гадзін, пасля гэтага адбыўся вялікі канцэрт. .

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
**Фота аўтара, Сяргея ГРАБОЎСКАГА і www.gazetaby.com.**



**АНОНС**

## Забойства на Ягелонскай...

Міхал Гурын-Маразоўскі на пачатку 1920-х гадоў — постаць вядомая, рэдактар "Савецкай Беларусі", прадстаўнік камуністычнай эліты.

Аднак жа на доўгія дзесяцігоддзі яго імя было кінута ў нябыт, калі і згадвалася ў савецкіх падручніках ці ўспамінах, то толькі ў словазлучэнні "правакатар Гурын".

Але ці быў правакатарам чалавек, які імкнуўся Камуністычную партыю Заходняй Беларусіператварыць у самастойную партыю са сваёй тактыкай і стратэгіяй; які прагнуў не згубіць нацыянальнае ў інтэрнацыянальным?

Ці быў здраднікам дзеяч, які, фінансуючы нашы школы, ратаваў іх ад паланізацыі?

А можа, правакатарамі былі тыя, хтоператварыў жыццё М.Гурына-Маразоўскага ў трагедыю?

*(Расследаванне пісьменніка Леаніда Дранько-Майсюка чытайце на 6—7-й стар.)*

**СКАНДАЛ**

# Ласкаю Божай... шпіён?

Аляксандр Лукашэнка, каментуючы сітуацыю вакол былога супрацоўніка амерыканскіх спецслужбаў Эдварда Сноўдэна, паведаміў журналістам сенсацыйную навіну.

У прыватнасці, ён заявіў: "*Мы нядаўна затрымалі аднаго са здраднікаў, які ў спецслужбах служыў і які быў праз прадстаўнікоў каталіцкай царквы звязаны з замежнымі дзяржавамі і не толькі здаваў інфармацыю, але з-за яго дзейнасці пацярпелі людзі, што працуюць за мяжой*". Кіраўнік дзяржавы дадаў: "*Гэта як называецца? З нашага пункту гледжання — здрада. А чаму з амерыканскага пункту гледжання Сноўдэна нельга расцаніць як здрадніка? Таму тут не павінна быць двайных стандартаў. Мы павінны зыходзіць з гэтага*".

Аднак Аляксандр Лукашэнка ніякіх імёнаў не назваў.

Ці сапраўды на дадзены момант затрыманы нехта з супрацоўнікаў спецслужб, іх "роднае ведамства" маўчыць. Затое амаль адразу стала вядома пра арышт ксяндза. Спачатку, зразумела, з неафіцыйных крыніц. Пачуўшы інфармацыю пра шпіёнаў-каталікоў, людзі адразу звялі адно з адным і расказалі, што больш за месяц таму пры таямнічых абставінах знік ксёндз Уладзіслаў Лазар, пробашч парафіі Спаслання Святога Духа ў Барысаве.

КДБ па-ранейшаму ад каментарыяў адмаўляецца.

Пра ксяндза Уладзіслава вядома наступнае. Ён беларус, нарадзіўся ў лістападзе 1967 года, вучыўся ў Гродзенскай семінарыі, потым працягнуў адукацыю за мяжой.. Сёлета, 14 красавіка, стаў пробашчам парафіі пры капліцы на могілках у Барысаве. Да гэтага ён служыў у касцёле Святога Антонія ў Мар'інай Горцы, куды пераехаў са сталіцы ў 2007 годзе. Сваёй працавітасцю ксёндз Уладзіслаў заслужыў павагу з боку мясцовага насельніцтва. Касцёл быў узведзены на падмурку гарадской электрастанцыі, і будынак не быў добраўпарадкаваны. Менавіта намаганнямі айца Уладзіслава памяшканне касцёла і цвінтар сталі мець прывабны выгляд.

На гэты момант вядома, што перамовамі з беларускімі ўладамі па гэтым пытанні займаецца арцыбіскуп Гуджэроці. Сама ж іерархія не жадае разгалошваць гэтую справу. Адзінае, што пацвердзілі прадстаўнікі касцёла на Беларусі — сам факт таго, што ксёндз Уладзіслаў Лазар знаходзіцца ў следчым ізалятары КДБ. У Барысаўскай парафіі кажуць, што не ведалі нават пра гэта. Там да апошняга перажывалі за жыццё айца Уладзіслава, бо знік ён без усялякіх слядоў.

**Аляксандр Кушняровіч**, адзін з вернікаў, які сябруе з ксяндзом Уладзіславам, кажа, што апошні раз спрабаваў дазваніцца яму 19 чэрвеня, але ўжо тады тэлефон быў адключаны. Спадар Кушняровіч падзяліўся з "Народнай Воляй" сваімі думкамі наконт гэтай справы.

"Я ведаю Уладзіслава Лазара некалькі гадоў, і больш шчырага і сумленнага чалавека я ў сваім жыцці не сустракаў. Ніколі не паверу, што ён мог быць супрацоўнікам спецслужбаў. Якія такія сакрэты мог ведаць святар, які будуе храм і ладзіць набажэнствы? А вось скарыстацца яго арыштам дзеля дасягнення сваіх мэт улады маглі. Бо гандляваць можна не толькі палітыкамі... Добра, калі я памыляюся. Але час пакажа. Адзінае, што я ведаю добра — людзі да яго цягнуліся, асабліва моладзь. І некаму гэта магло быць не даспадобы".

Пра акалічнасці справы на дадзены момант не вядома нічога. Гэта дзіўна, бо беларускі КДБ вельмі любіць расказваць пра злоўленых шпіёнаў, нават калі потым ніякія такія справы і не даходзяць да суда. Але гэтым разам КДБ не спяшаецца рапартаваць пра чарговую бліскучую аперацыю. Дзіўна, што маўчыць і Касцёл. Прычым ужо больш за месяц...

**Любоў ЛУНЁВА.**

**НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА**



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Выбор угла

Валовой внутренний продукт Беларуси за первое полугодие по сравнению с аналогичным периодом 2012 года увеличился лишь на 1,4% и составил в текущих ценах 285 трлн рублей. Причем его рост с начала года был по нисходящей: за январь—март — 3,5%, январь—апрель — 2,5%, январь—май — 1,1%. Объем промпроизводства за январь—июнь сократился в сопоставимых ценах на 4,2%. Объем сельхозпроизводства подрос на 1,5% до 32,76 триллиона белорусских рублей. Ударно увеличивался только розничный товарооборот, который вырос на 18,8% до 122,135 триллиона рублей.

Если вспомнить, что в соответствии с прогнозом социально-экономического развития Беларуси на 2013 год запланирован рост ВВП на 8,5%, то можно констатировать, что экономические власти "забили" на нереальную ростовую директиву по ВВП и решили во главе с Нацбанком сосредоточиться на обеспечении финансовой стабильности в стране. Так оно и лучше.

Но и здесь не все так просто. В первой декаде июля белорусские банки столкнулись с массовой конвертацией рублевых вкладов в валютные. Чтобы этот процесс начался, достаточно было допустить рост курса доллара всего лишь на 2% в течение двух недель. Чтобы купировать эту опасную тенденцию, как представляется, со стороны Нацбанка была дана команда коммерческим банкам, начиная с государственных, в темпе повысить депозитные проценты на срочные рублевые вклады. Буквально в течение недели (с 11 по 17 июля) в большинстве банков, которые имеют в портфеле значительный объем вкладов населения, произошел ощутимый рост процентных ставок по депозитам. Так, "Беларусбанк" по вкладу "Гарантированный доход" повысил доходность сразу на 10 процентных пунктов до 30% годовых, "Белагропромбанк" довел ставку по вкладу "Старт!" до 34% годовых, дважды повысив в течение недели доходность по данному депозиту. Чтобы на всякий случай не отставать от госбанков, повысили процентные ставки по депозитам и средние частные банки. К примеру, "Идея Банк" повысил фиксированную ставку по вкладу "Летний" на 6% до 33% годовых, "МТБанк" и "Дельта Банк" довели процентный доход по трехмесячным вкладам с фиксированной процентной ставкой до 33% годовых и более. Отдельные банки предлагают фиксированную ставку 35% годовых в случае размещения депозита на полгода.

Повышать рублевые проценты банки начали и потому, что отток с рублевых депозитов поставил под угрозу и их рублевую ликвидность — способность своевременно выполнять свои финансовые обязательства. Прежде всего кредитовать клиентуру, проводить клиентские и свои расчеты, уплачивать налоги и другие.

Создалась такая ситуация, когда банковская система переживает определенный дефицит рублевой ликвидности, и на этом фоне растут процентные ставки по депозитам. По признанию банкиров, значительный рост доходности по рублевым депозитам уже привел к тому, что интерес вкладчиков к депозитам в нацвалюте стал возвращаться.

Нацбанк значительно (с 29% до 42%) поднял процентные ставки по операциям поддержки банков рублевой ликвидностью на межбанковском рынке. Средневзвешенная ставка АФН по однодневным кредитам в белорусских рублях 22 июля достигла 49,62%, увеличившись на 4,31 процентного пункта по сравнению предыдущим днем. Таким образом, скомандовав банкам поднять депозитные рублевые проценты, задрав свои проценты на межбанке, главный банк создал искусственный дефицит рублевых ресурсов, чтобы снизить давление на обменный курс "зайчика" и остановить его девальвацию. Согласно данным Национального банка, дефицит рублевой ликвидности банковской системы на утро 22 июля составлял 1,2 триллиона рублей.

*(Окончание на 2-й стр.)*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Выбор угла

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Это никак не соотносится со словами А.Лукашенко в адрес председателя Нацбанка Н.Ермаковой: *“Ни в коем случае ничего искусственно не должны делать...”* Для того, чтобы удерживать курс рубля рыночными методами, необходимо иметь положительный торговый баланс. За полугодие внешнеторговое сальдо по услугам оказалось с плюсом в 303 миллиона долларов, но с минусом в 931 миллион по товарам.

Естественно, повысив депозитные проценты и покупая дорогие ресурсы, коммерческие банки стали существенно повышать стоимость кредитов в нацвалюте для предприятий. Уже подняли стоимость рублевых кредитов “БПС-Сбербанк”, “Белгазпромбанк”, “БелВЭБ”. Но ведь правительство в лице премьера М.Мясниковича ранее обещало президенту, что уже в первом полугодии рублевые кредиты станут доступными для реального сектора экономики. Но пока не суждено этому быть. Можно сказать больше: высокие процентные ставки, вернувшиеся на денежный рынок, никак не согласуются с планами властей достичь высоких темпов экономического роста. Когда стоимость рублевых кредитов превышает 35—40% годовых, предприятия не в состоянии привлекать банковские ресурсы на свое развитие и обеспечивать заданный рост ВВП. Другое дело, если б белорусские вкладчики были более сознательными и не оставляли банки без рублевых ресурсов из-за пустяковых колебаний курсов рубля. Кто ж виноват, что они прошли такую суровую школу 2011 года?

Понятно, что болезненное подорожание кредитов в нацвалюте скажется на возможностях предприятий привлекать их в нужных им объемах. Они и так сидят без оборотных средств, и у большинства из них уровень рентабельности составляет менее 10%. Во многих отраслях по сравнению с прошлым годом уровень рентабельности снизился, поэтому платить высокие процентные ставки по кредитам им стало вообще невмоготу. Сумма чистого убытка организаций за первые пять месяцев 2013 года в Беларуси составила 3,3 триллиона рублей. По сравнению с аналогичным периодом 2012 года она выросла в 1,7 раза. Прибыль от реализации уменьшилась на 25,9% до 36,4 триллиона рублей, чистая прибыль сократилась на 35% до 22,6 триллиона рублей. Рентабельность реализованных продукции, товаров, услуг составила 9%. Число убыточных организаций за пять месяцев составило 854, или 10,3% от общего количества.

Натужно и медленно решается проблема со сверхнормативными запасами готовой продукции. За июнь они снизились на 3,7%. И на 1 июля 2013 года составили 31,4 триллиона рублей, что на 40,9% больше, чем на начало года. По состоянию на 1 июля 2013 года соотношение запасов готовой продукции и среднемесячного объема производства снизилось с 81% до 78,1% месяц назад. Для сравнения: на 1 января 2013 года запасы составляли 56,5% к среднемесячному производству, а на 1 июля 2012 года — 50,7%. Ну не хотят белорусы покупать залежавшиеся на складах белорусские товары. Среди потребительских товаров склады больше всего заполнила отечественная обувь. На 1 июня ее складские запасы составили 293% к месячному производству. При этом производители и не думают сокращать объемы выпуска — в I полугодии нынешнего года обуви было произведено на 2,3% больше, чем за тот же период 2012-го. Продавать же производимый огромными объемами товар получается все хуже. Белорусы, увеличив свои доходы, предпочитают импортную обувь. Если в прошлом году на зарубежные товары приходилось 36% продаж, то теперь доля импорта возросла до 41%. По трикотажным изделиям доля импорта в продажах выросла с 21% до 29%. Верхняя одежда зарубежных производителей теперь занимает 40% проданного объема, прошлогодний показатель был на уровне 36%. Запасы швейных изделий уже достигли 189% к среднемесячному производству. Эта ситуация заставила белорусских швейников сбавить темпы производства всего лишь на 1,7%.

Не лучше положение со бытовой техникой. Например, среди проданных стиральных машин доля отечественных сократилась с 66% до 47%. Но это не смущает производителя, который в этом году выпустил продукции на 20% больше, чем в прошлом. В результате складские запасы стиральных машин с начала года удвоились и теперь составляют 255% от месячного выпуска.

Но самая худшая ситуация на рынке телевизоров: за первое полугодие “Горизонт” и “Витязь” потеряли белорусский рынок. Если в прошлом году их доля составляла 44%, то сейчас 80% продаж приходится на зарубежных конкурентов. И большие ввозные таможенные пошлины на импортные аналоги не помогают.

На этом фоне неплохо держат свое преимущество только белорусские холодильники. Их доля в продажах хоть и сократилась, но незначительно — на 4% до72% в проданном объеме. Производство, правда, тоже увеличилось на 4,3% при сокращении экспорта на 10%. Все это свидетельствует о неэффективности борьбы правительства с импортом запретительными мерами. Тем более, когда проблемы с реализацией своей продукции обостряются с вступлением России в ВТО.

Экспорт транспортных средств упал в январе—мае на четверть. Но за этот же период производство в данной отрасли увеличилось на 2,7%. В результате складские запасы транспортных средств составили 205% от месячной продукции. Экспорт электронного оборудования уменьшился на 6,3%, а производство увеличилось на 13,6%.

Отодвинув следующее снижение ставки рефинансирования по меньшей мере на август, Нацбанк методом проб и ошибок приходит к пониманию, что удержать национальную валюту от скатывания в неуправляемую девальвацию возможно, поддерживая достаточно высокие рублевые проценты. Никакие китайские кредиты не вытянут запланированные для белорусской экономики ростовые показатели. В том качестве, в каком она есть. Остается надеяться, что **здравый смысл у белорусского руководства возобладает и экономические власти во главу угла поставят финансовую стабильность, а не экономический рост.** Бездумное наращивание выпуска не пользующихся спросом (а порою никому не нужных) товаров становится самоцелью. Получается производство ради производства. Так уже было в советские времена, когда любой ценой выполняли директивы очередного съезда КПСС.

ЭКАНОМІКА

## Экспарт Мінска абваліўся на трэць

Камандныя метады не спрацавалі: аб'ём сталічнага экспарту за студзень—май 2013 года склаў 6 млрд 826,7 млн долараў ЗША, што на 30% менш за аналагічны перыяд мінулага года.

Такія лічбы прыводзіць галоўнае статыстычнае ўпраўленне Мінска.

Зніжэнне экспартных паставак адбылося ў асноўным за кошт змяншэння вывазу трактароў, уключаючы седлавыя цягачы, — на 144,7 млн долараў, аўтамабіляў грузавых, не ўключаючы седлавыя цягачы, — на 88,2 млн долараў, аўтамабіляў, прызначаных для перавозкі 10 і больш чалавек, — на 31,8 млн долараў, прычэпаў і паўпрычэпаў — на 6,6 млн долараў.

УВАГА!

## Прадаюцца білеты на турнір памяці Руслана Салея

Першы такі турнір прайшоў у мінулым годзе. Ён быў прысвечаны памяці былога капітана хакейнай зборнай Беларусі Руслана Салея, які 7 верасня 2011 года разам з усёй камандай расійскага “Лакаматыва” загінуў у авіякатастрофе пад Яраслаўлем.

У гэтым годзе турнір пройдзе з 16 па 18 жніўня на “Мінск-Арэне”. У ім прымуць удзел мінскае “Дынама”, “Нёман” (Гродна), “Спартак” (Масква) і хабараўскі “Амур”.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Вячаслаў ШЭЛЕГ:

# «Гэта проста скоцтва! Іншага слова і не падбяру...»

*У мінулыя выхадныя невядомыя скралі 16-гадовую дачку бабруйскага прадпрымальніка і грамадскага актывіста Вячаслава Шэлега. Апошні распавёў “Народнай Волі” некаторыя падрабязнасці справы.*

### Як было

— У мінулую суботу каля 6 гадзін раніцы дачка Наталля накіравалася на ранішнюю прабежку на школьны стадыён, — расказаў Вячаслаў Шэлег. — І знікла. Каля 8 раніцы мне патэлефанавала маці Наталлі (мы жывём у розных месцах) і распавяла сітуацыю. У мяне адразу ж сэрца закалацілася, зразумеў, што здарылася бяда. Звярнуліся ў міліцыю. Праз нейкі час Наташу знайшлі ў лесе, кіламетраў за 20 ад горада. Ля нейкага балота. Яе збілі, абмазалі фарбай, парвалі вопратку і знялі абутак. Забралі мабільны тэлефон і ключы. Проста жудасць!

**— Нешта патрабавалі?**

— Нічога ўцямнага не казалі, проста шмат лаяліся. Дачка расказвала затым, што і наогул была як у тумане, бо да гэтага, перад тым як вывезці ў лес, яе моцна ўдарылі ззаду па галаве.



### Дачка

— Зараз *(гутарка адбывалася ўчора. —* **Аўт.**) дачку вязуць на МРТ з адной бальніцы ў другую. Да гэтага паставілі папярэдні дыягназ — страсенне мазгоў. У Наталлі перыядычна пачынае ісці кроў з носа, калі ходзіць, то хістаецца. Абавязкова звернемся да псіхатэрапеўта, каб ён папрацаваў і з дачкой, і са мной. Пагрозы дачцэ былі яшчэ ў чэрвені, яна ад іх ледзь адышла. Днямі пахавалі маю маму, а праз два дні скралі дачку. Ворагу не пажадаю перажыць тое, што давялося мне ў гэтыя дні.

### Версіі

— Шчыра скажу: я не ведаю, хто гэта мог зрабіць, — *кажа наш суразмоўца.* — Але аддаю перавагу версіі, што праз дачку хацелі націснуць на мяне. Прагучала пагроза ў мой адрас.

*Яшчэ ў 2006 годзе ў бізнесмена кантрольныя органы канфіскавалі ўсю партыю тавара. Вярхоўны суд пазней адмяніў рашэнне аб канфіскацыі, але дзяржава ўжо прадала тавар. Тым часам маёмасць уцанілі, і прадпрымальніку адмовілі вяртаць поўны кошт таго, што забралі.*

— Я прайшоў у Беларусі ўсе інстанцыі і ўжо збіраўся накіраваць дакументы, як парэкамендавала Генеральная пракуратура, у Камітэт ААН па правах чалавека. І тут вось адбываюцца такія жудасныя рэчы. Што мне яшчэ застаецца думаць? А першыя пагрозы дачцэ, паўтаруся, прагучалі яшчэ ў чэрвені. Гэта адбылося на лесвічнай пляцоўцы з боку двух брытагаловых мужчын. І яны добра ведалі сямейную сітуацыю, у іх была інфармацыя, што маці Наталлі — інвалід. Не думаю, што простыя хуліганы пра нас ведалі б вельмі шмат. На жаль, я тады не падаў заяву ў міліцыю...

**— А можа, зуб на вас маюць канкурэнты па бізнесе?**

— Наўрад ці, бо з 2010 года я перастаў ім займацца.

*Дарэчы, Вячаслаў Шэлег — сябра аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”, а ў 2010 годзе быў удзельнікам ініцыятыўнай групы экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.*

### Следства

*Афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці Аксана Салянюк паведаміла, што па інцыдэнце з 16-гадовай дзяўчынай заведзена крымінальная справа.*

*Прадстаўнік УСК патлумачыла, што справа заведзена па ч.1 арт.339 “Хуліганства” КК Беларусі. Зараз праводзяцца неабходныя следчыя дзеянні.*

— Прыязджалі і праводзілі апытанне некалькі разоў, — *дадае Вячаслаў Шэлег.* — Участковы, прадстаўнікі следчых органаў з Бабруйска, Магілёўскай вобласці... Ведаю, што завялі крымінальную справу па артыкуле “Хуліганства”. Але чаму не “Скраданне”? Чалавека ж адвезлі ў лес.

— Я ўсё ж такі спадзяюся, што гэтых падонкаў знойдуць, — *кажа напрыканцы Вячаслаў Шэлег.* — Бо тое, што яны зрабілі, гэта самае сапраўднае скоцтва. Іншага слова я і не знаходжу...

Аб выніках следства “Народна Воля” раскажа чытачам.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



СІТУАЦЫЯ

## Бывай, скварка!

*У Беларусі можа быць уведзена забарона на ўтрыманне свіней у прыватных гаспадарках. Пра гэта па выніках сустрэчы ў Мінску кіраўнікоў ветэрынарных службаў Беларусі, Расіі, Украіны і Літвы паведаміў галоўны ветэрынар Літвы Ёнас Мілюс.*



Ускосныя пацвярджэнні намеру беларускіх улад у барацьбе з афрыканскай чумой звесці свіней з усіх уласных падворкаў, нават у тых рэгіёнах, дзе ніякай успышкі захворвання няма, ужо ёсць. Так, жыхары некаторых вёсак Крупскага раёна атрымалі загад забіць усіх парсюкоў — і малых, і вялікіх. У адных месцах аб'явы былі вывешаны ў магазінах і сельсаветах, у другіх — прыйшлі людзям па пошце. Як потым высветлілася, АЧС у раёне няма, а патрабаванне звесці свіней — мера прафілактыкі.

Як высветлілася, масава забіваюць свіней нават на Магілёўшчыне, хаця свіней з гэтага рэгіёна хвароба пакуль абыходзіць. Гэта прызнала загадчыца аддзела ветэрынарыі камітэта па сельскай гаспадарцы аблвыканкама Алена Шыбут падчас “круглага стала” ў газеце “Магілёўскія ведамасці”. Праўда, па яе словах, прыватнікі робяць гэта добраахвотна. Маўляў, няма заканадаўчай базы, якая дазволіла б абавязаць людзей забіць сваіх свіней. Атрымліваецца, што на Магілёшчыне такога закона няма, а ў іншых рэгіёнах ёсць?..

Аляксандр Лукашэнка ў гутарцы з журналістамі таксама ўскосна пацвердзіў курс на знішчэнне ўсяго прыватнага свіногa пагалоўя. Ён паведаміў, што даручыў весці з насельніцтвам тлумачальную работу і папрасіў чыноўнікаў звярнуцца да людзей: *“Калі ўжо так адбылося, пакуль гэтае гора да вас не дайшло, давайце самі забіце сваіх свіней. Альбо дзяржава забярэ і заплаціць грошы (немалыя ж грошы!), альбо вы самі, дома. Мы зараз працуем з насельніцтвам”.*

Відавочна, што гэтае шматзначнае “працуем з насельніцтвам” азначае, што законных падстаў для забароны людзям трымаць свіней няма. Тым больш што буйныя свінакомплексы ніхто не зачыняе і не збіраецца. Але вельмі верагодна, што людзям прыйдзецца забіць свіней у добраахвотна-прымусовым парадку.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

### АФІЦЫЙНА

Дэпартамент ветэрынарнага нагляду ніяк не каментуе звесткі пра неафіцыйнае рашэнне звесці свіней з уласных гаспадарак. Там спасылаюцца на тое, што ніякіх афіцыйных дакументаў на гэты конт няма.

### ТЫМ ЧАСАМ

Прэс-служба Адміністрацыі Пскоўскай вобласці паведаміла пра тое, што ў гэты расійскі рэгіён АЧС трапіла з кормам з Беларусі. Па інфармацыі, распаўсюджанай суседзямі, толькі на Віцебшчыне зарэгістраваны 55 ачагоў АЧС. Аднак беларускія ўлады па-ранейшаму афіцыйна гавораць толькі пра два выпадкі: у Іўеўскім і ў Віцебскім раёнах.

### ДАРЭЧЫ

“*Калі заразілася скаціна, мяса ніяк не можа трапіць на мясакамбінат. Але нават, не дай Бог, недзе нешта прасачылася, то 60 градусаў — вы пад душ часам становіцеся, і вада больш гарачая — і вірус гіне”,* — супакоіў насельніцтва Аляксандр Лукашэнка і параіў па-ранейшаму, не баючыся, есці шашлык.

Паколькі не ўсе правільна зразумелі гэтую параду, тлумачым. Пад гарачы душ лезці не трэба, больш за тое, пару хвілін пад вадой з тэмпературай 60 градусаў — і чалавек атрымае апёкі. Маецца на ўвазе, што пры цеплавой апрацоўцы вірус АЧС гіне.

Праўда, шашлык — не такая ўжо распаўсюджаная страва на вёсцы, дзе трымаюць свіней. А вось сала, кумпякі, вяленыя каўбасы, паляндвіцы — гэта, як кажуць, наша меню. І выраблюцца яны без цеплавой апрацоўкі. Няўжо пасля знішчэння свіней наступнай кампаніяй прафілактыкі будзе акцыя “Бывай, сала!”?

КРЫМІНАЛ

## Шклоўскі чыноўнік скраў паўмільярда рублёў?

Пракуратурай Магілёўскай вобласці распачата крымінальная справа ў дачыненні да службовай асобы шклоўскага УКП “Жылкамгас” за перавышэнне службовых паўнамоцтваў (ч.3 арт.426 КК). Чыноўнік падазраецца ў прычыненні ўрону прадпрыемству больш як на паўмільярда рублёў. У ходзе праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў было ўстаноўлена, што падазроны на працягу васьмі месяцаў набываў у аднаго і таго ж прадпрыемства-пастаўшчыка ў Віцебску розныя таварна-матэрыяльныя каштоўнасці за кошт сродкаў свайго прадпрыемства, не ўзгадняючы закупкі з вышэйстаячым кіраўніцтвам, арганізаваў набыццё за кошт жыллёва-камунальнага прадпрыемства розных камплектуючых матэрыялаў па коштах, якія значна перавышаюць кошт аналагічных тавараў у іншых пастаўшчыкоў.

ПРОБЛЕМА

# Белорусские школы рискуют остаться без учителей физики и математики

*Недобор на эти специальности в этом году был даже на бюджетные отделения педвузов страны. Вакантными остались почти 70% бюджетных мест. Не выполнены планы приема и по другим педагогическим специальностям.*

Эксперты не видят в этом сенсации. Говорят, что итоги нынешней вступительной кампании в педагогических вузах — это закономерность. Сегодня сфера педагогического образования переживает не просто кризис — она разваливается. И на любые заявления типа “а больше учителей стране и не нужно, потому что уменьшается количество школьников, сокращается число школ” приводят свои аргументы.



— Нынешний год не первый, когда педвузы не выполнили план приема студентов на обучение за счет бюджета, — говорит репетитор по физике и математике **Евгений ЛИВЯНТ**, который уже не один год исследует проблему школьного образования. — Такова тенденция последних лет. И это на фоне того, что педвузы снижают контрольные цифры приема.

Например, в прошлом году на физический факультет Минского педагогического университета план приема на бюджет был 130 мест, в этом его сократили до 85! И что? В прошлом году на физфак поступило 85 человек, в этом документы подали только 29 человек! То же и с математикой. На математический факультет в этом году планировалось набрать 115 человек, желающих учиться оказалось только 52. В прошлом году план приема на бюджетное отделение этого факультета был 135 мест, подали заявление 132 человека. Из них за год отчислено больше 30 первокурсников. К слову, доучиться до 2-го курса из поступивших на физфак в прошлом году 85 человек смогли чуть больше 50.

Аналогичная ситуация во всех наших педвузах — Могилевском государственном университет имени Кулешова, Мозырском государственном педагогическом университете и других.

Причем хочу особо отметить: последние лет семь снижается и проходной балл для поступления в педвузы. Туда идут худшие абитуриенты.

**— Мне кажется, это тенденция не только последних семи лет.**

— Возможно, педвузы никогда не были самыми престижными вузами. Поговорки типа “У кого ума нет — идет в пед” существуют давно. Но в 1980-е годы — время моего студенчества — не то что в пединститутах, в педучилищах половина группы — это были девушки-отличницы, которые потом поступали в пединституты. Я заканчивал физфак БГУ, педагогическое отделение, и половина моих однокурсников — это были ученики со средним баллом аттестата 4,5—5. Минимум трое из моих однокурсников сегодня — это профессора, которые работают в США и Швеции.

То, что происходит сегодня в сфере педагогического образования, — это уже не кризис, это развал. Количественные изменения, когда желающих идти в учителя становилось все меньше и меньше, перешли в качественные. С 2011 года на многие специальности педвузов берут всех подряд, проходные баллы даже не считают. В нынешнюю кампанию даже на таких условиях на физико-математические специальности педвузов набрано приблизительно 30% от плана, причем плана сокращенного по сравнению с прошлым годом. И ведь не факт, что все эти ребята смогут учиться, не будут отчислены за неуспеваемость, потому что не смогут освоить университетскую программу. Значит, можно считать, что преподавание физики и математики в наших педвузах заканчивается. Но если нет студентов, у преподавателей нет работы. Их уволят, никем не заменив. Цепочка последствий от недобора в педвузы имеет много звеньев.

**— Например?**

— На мой взгляд, никакой модернизации промышленности в нашей стране не получится. Проанализируйте мировой рейтинг среднего образования PISA. Какие страны занимают там первые строчки? Южная Корея, Китай, Сингапур, Финляндия, Швеция. Страны, в которых произошла реальная модернизация экономики. Не знаю, что тут причина, а что следствие, но четкая зависимость связки “образование-модернизация” прослеживается.

**— И какой выход? Кто-нибудь ищет рецепт для спасения белорусской школы?**

— Сложно сказать. Ни для кого не секрет, что одна из основных причин — это падение престижа профессии учителя. Школьных педагогов превратили в низшую касту общества. Минобразования вроде бы вело разговоры о том, что необходимо введение каких-то льгот для всех учителей, специальных надбавок для молодых специалистов, повышения стипендий в педвузах, введения отсрочки от армии для мужчин, работающих учителями. Совещание по данной проблеме анонсировалось, но, кажется, так и не состоялось. По крайней мере я так и не нашел в прессе упоминания ни о самом совещании, ни о принятых на нем решениях.

Более того, складывается ощущение, что в стране делается все для того, чтобы учителя бежали из школы. Такой бюрократии, бумаготворчества, какие есть сейчас в школе, не было никогда. Школу просто парализовало безумное количество справок, отчетов, мифических планов, рейтингов и прочего бреда. Как и перегруженные ненужным материалом школьные программы, ужасные учебники. Знаете, мне школьные программы напоминают набор из пазлов разных размеров, которые насыпали из коробок с разными рисунками — ничего не стыкуется!

Речь идет о системном кризисе школьного образования, и давать какие-то простые рецепты — это глупость. Для начала необходимо официально признать этот кризис. Только в этом случае будет смысл искать ответ на вопрос “Что делать?”.

Каждый год у нас строится огромное количество домов, множество строений капитально ремонтируется. Все это делается с большими недостатками. Совещания на самом высоком уровне по решению проблем в строительстве проходят чуть ли не каждый день, принимаются какие-то меры. Люди в конце концов получают новые или отремонтированные квартиры, пусть и с множеством недоделок. А в образовании уже много лет ничего не строится и ничего не ремонтируется — все только ветшает и разваливается. А руководители системы образования только водят хороводы с заклинаниями то в одну сторону, то в другую.

**— Сегодня еще есть кому учить наших детей?**

— Очень хорошие учителя еще есть. Но их становится все меньше и меньше. Показательным был прошлый год. Несколько моих знакомых учительниц возраста 35—40 лет, у которых еще и возраст трудоспособный, и опыт есть, и категория высшая, ушли из школы в середине учебного года. Для них это был решительный шаг. Это те отличницы из 1980 — начала 1990-х, которые мечтали быть учителями — и стали, но и они не смогли больше работать в нашей школе.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО



Николай Автухович.

# Как бизнесмены оказываются в тюрьме, а следователи — в Америке

*Известный бизнесмен, ветеран войны в Афганистане Николай Автухович по-прежнему находится за решеткой. Следователь Николай Олихвер, который вел первое дело Автуховича, сейчас живет в США...*

"Народная Воля" побеседовала с руководителем правозащитного центра "Правовая помощь населению" (Киев) **Олегом ВОЛЧЕКОМ**, который является доверенным лицом Н.Автуховича.

**— Первое уголовное дело против Автуховича было возбуждено в 2005 году, позже Николай обвинял следователя в фальсификации материалов...**

— История противостояния предпринимателя из небольшого белорусского городка Волковыска с местными чиновниками началась осенью 2003 года. Автухович создал крупнейшую в Волковыске службу "Радио-такси 22222", в которой работали 60 человек. Николай исправно платил налоги, бизнес стремительно развивался.

Однако с 1 марта 2003 года вступил в силу **Декрет Президента РБ №4,** запрещающий индивидуальным предпринимателям иметь более трех наемных лиц. Автухович, изучив новый документ, нашел оптимальный механизм ведения своего бизнеса, который позволял ему в рамках закона платить меньше налогов, что по своей правовой природе не являлось уголовным преступлением.

Бизнесмен, в соответствии с Декретом, уволил по собственному желанию всех водителей, чтобы не нарушать документ. Водители были приняты на работу в фирму "Ника-Транс", которая занималась грузоперевозками. Руководил фирмой Юрий Леонов.

Этот договор соответствовал действующему законодательству и не ставил своей целью уход от налогов. Действия предпринимателей Автуховича и Леонова не выходили за рамки обычной практики заключения хозяйственных договоров в соответствии *со стст. 391, 402, 405, 408 Гражданского кодекса РБ* и уголовно не наказуемы.

Факт предоставления водителей никогда не скрывался и проходил по всем документам, которые Н.Автухович подавал в соответствующие контролирующие органы.

После введения такой схемы работы налоговые органы г.Волковыска устраивали постоянные проверки как в отношении предпринимателя Автуховича, так и фирмы ВТЧУП "Ника-Транс". И сначала не было вопроса о неуплате налогов. Два года шла тяжба Н.Автуховича с Гродненской областной налоговой инспекцией по вопросу о порядке взаимозачетов между субъектами.

Однако позже налоговые органы поменяли свои претензии и усмотрели нарушение законодательства, обвинив Н.Автуховича и директора "Ника-Транс" Юрия Леонова в уклонении от уплаты налогов.

Деятельность Н.Автуховича была предметом неоднократных проверок различных контрольных органов, но все они не выявили нарушений.

**— Тогда почему следователь Николай Олихвер возбудил уголовное дело, если у Автуховича было все законно?**

— Без достаточных оснований. По логике следователя, Н.Автухович после выхода Декрета №4 должен был не нанимать работников ВТЧУП "Ника-Транс", а создать собственную фирму. Если бы он так сделал, то, по подсчетам Олихвера, выручка "фирмы" составила бы 679 миллионов белорусских рублей.

Абсурд! Следователем была насчитана неуплата налогов с предприятия, которое якобы должен был создать Автухович после вступления в силу Декрета №4. Но этот Декрет с дальнейшими изменениями не обязывал регистрировать в обязательном порядке предприятие.

Все это привело к тому, что Автухович оказался за решеткой, а с него и Леонова взыскали около миллиона долларов США.

Конечно, Олихвер все понимал, но, видимо, он был лишь пешкой в игре, в результате которой предприниматель оказался в тюрьме. Хотя прямую ответственность за это должен нести именно следователь.

**— На ваш взгляд, какие мотивы были у властей, чтобы так круто взяться за бизнесмена? Наверняка ведь понимали, что он без боя не сдастся...**

— Первое. Автухович предал огласке факты коррупции в органах власти по Гродненской области. В 2003 году Н.Автухович предоставил информацию в Комитет по борьбе с организованной преступностью и коррупцией о фактах взяток в налоговой инспекции Волковыска. Бизнесмен инициировал одно из самых громких уголовных дел в налоговом ведомстве Беларуси и попытался привлечь к ответственности чиновников, устроивших в районе беспредел.

Была проделана большая работа следственными органами, но в один момент Генеральная прокуратура пошла на попятную. При всех фактах дело против налоговиков было "заморожено". А через пару месяцев возбудили дело против бизнесмена.

Второе. Николай Автухович в 2004 году участвовал в избирательной кампании в парламент страны. Но лидеры, которые имеют организаторские способности, способны повести за собой, власти не нужны. Более того — даже опасны. Кроме того, во время избирательной кампании предприниматель открыто выступил против продления полномочий президента Александра Лукашенко.



Николай Олихвер и его дом в США.

И третье — возможно, на примере Автуховича высокие чиновники хотели показать налогоплательщикам, что они могут сделать с теми, кто попробует отстаивать свои права. И они стеной встали на защиту **своих**, после чего предприниматель попал под пристальный контроль правоохранительных органов.

Срок по первому приговору уголовного дела Николая Автуховича истекал в июле 2009 года. 6 февраля ему пришло письмо из Волковысского суда, в котором сообщалось, что 10 февраля 2009 года пройдет слушание по его условно-досрочному освобождению. Однако слушание так и не состоялось, поскольку Николай был вновь арестован правоохранительными органами. Теперь ему вменялось, что он совместно с Ю.Леоновым, В.Осипенко готовил теракты против представителей власти, участвовал в поджогах домов руководителей города Волковыска. Правда, на суде все обвинения рассыпались, так что пришлось осудить за 5 охотничьих патронов, которые якобы незаконно хранились у него в доме. За 5 патронов ему дали 5 лет и 2 месяца лишения свободы. Освободиться Автухович должен в апреле следующего года.

**— Николай Автухович настаивает на том, что Олихвер обязан сейчас рассказать всю правду, поскольку он уже живет в США и может ничего не бояться. Как вы считаете: пойдет на это бывший следователь?**

— Для меня вообще показался странным переезд Олихвера в США в тот момент, когда Автухович был признан и в Америке, и в Европе политзаключенным.

Я считаю, что следователь при производстве уголовного дела совершил ряд уголовно наказуемых деяний и в его действиях усматриваются нарушения ряда статей Уголовного кодекса.

Так, он злоупотребил своими служебными полномочиями (ст.424 УК РБ), не имея достаточных оснований для возбуждения уголовного дела против предпринимателей Н.Автуховича и Ю.Леонова.

Согласно ст. 29 УПК РБ уголовное дело не может быть возбуждено за отсутствием общественно опасного деяния, предусмотренного уголовным законом. В действиях Н.Автуховича и Ю.Леонова при составлении договора о совместном сотрудничестве не было общественно опасного деяния, за которое предусмотрена уголовная ответственность.

Он же в ходе незаконно возбужденного уголовного дела применил необоснованный арест против Автуховича, который был вынужден в знак протеста начать 74-дневную голодовку. Олихвер, зная, что обвиняемый находится в тяжелом состоянии и не может передвигаться, заставлял его участвовать в следственных действиях. Хотя мог освободить из-под стражи и направить в больницу. Даже назначил психиатрическую экспертизу в отношении обвиняемого, где указал, что Автухович может покончить жизнь самоубийством.

Олихвер допрашивал несовершеннолетнюю дочь Николая, что по закону тоже нельзя было делать. Было возбуждено уголовное дело и в отношении жены Автуховича. Данные действия подпадают под статью 426 УК РБ (превышение власти).

Кстати, за две недели до отъезда Олихвера в США против него было начато внутреннее расследование. Причиной стало исчезновение документов из уголовного дела по обвинению в незаконной предпринимательской деятельности в отношении гродненского предпринимателя Сергея Сурбы. Олихвер расследовал его одновременно с первым делом Автуховича. Сурба был приговорен к году ограничения свободы. Позже предприниматель обратился в УДФР КГК РБ по Гродненской области для того, чтобы получить обратно свои документы (договор о сдаче в аренду оборудования, который был у него изъят). Он был обеспокоен тем, что этот договор во время суда не предъявлялся. Его опасения подтвердились — документ странным образом исчез из дела.

За это Н.Олихверу грозила уголовная ответственность, но... Буквально через две недели он увольняется и уезжает на постоянное место жительства в США.

Что же касается того, может ли бывший следователь сейчас рассказать всю правду... Думаю, если бы он хотел, то уже давно сделал бы это.

**— А как Олихвер попал в США? Как он, должностное лицо, нарушившее права человека в Беларуси, смог легализоваться в одной из ведущих демократических стран мира?**

— Для нас эта новость также была неожиданной. Сейчас несколько международных организаций занимаются этим вопросом, поскольку его нахождение в США противоречит требованиям "Акта о демократии в Беларуси", принятого Конгрессом США еще в 2004 году. Акт действует по настоящее время.

Согласно Акту, высшим должностным лицам Беларуси, их близким родственникам, а также другим лицам, которые нарушают права человека, запрещено посещать США.

Мы полагаем, что Н.Олихвер был недостаточно откровенен, рассказывая о себе в иммиграционной анкете и при собеседовании в американском посольстве. Возможно, скрыл определенные факты своей служебной деятельности в должности следователя и не упоминал о "деле Автуховича". Может быть, не сообщил и то, что в отношении него проводится служебная проверка по факту уничтожения вещественных доказательств из материалов уголовного дела. Но, думаю, точку в этой истории ставить еще рано...

**Беседовал Сергей ЗАПОЛЬСКИЙ.**

### СПРАВКА «НАРОДНОЙ ВОЛИ»

### Николай ОЛИХВЕР

До 2008 года работал старшим следователем Следственного отдела Управления департамента финансовых расследований Комитета государственного контроля Республики Беларусь.

В период с 2005-го по 2006 год лично принимал участие в возбуждении уголовного дела против предпринимателей, общественных активистов по борьбе с коррупцией в Гродненской области Николая Автуховича и Юрия Леонова. Расследовал дело и довел его до суда.

Проживает в Атланте (США) примерно с апреля-мая 2008 года. По американским документам проходит как Mikalai Alikhver.

Работает менеджером в компании APC (руководитель некто Игорь Дубинский), занимающейся чисткой ковровых покрытий.

Приобрел двухэтажный таунхаус в июне 2010 года за 79.200 долларов.

СТАТЫСТЫКА

## Самыя высокія заробкі ў нафтавікоў і лётчыкаў

*А менш за ўсіх у Беларусі плацяць сацыяльным работнікам*

Нацстат апублікаваў даныя аб сярэдняй зарплаце ў Беларусі.

Самыя высокія заробкі маюць спецыялісты, занятыя ў дзейнасці, звязанай з вылічальнай тэхнікай. У чэрвені бягучага года сярэдні заробак у гэтай сферы склаў **12 млн 711,6 тысячы рублёў.**

Высокая сярэдняя заработная плата ў чэрвені зафіксавана таксама:

— у сферы вытворчасці коксу, нафтапрадуктаў і ядзерных матэрыялаў — **9 млн 855,8 тыс.,**

— на паветраным транспарце — **10 млн 147,6 тыс.,**

— у галіне архітэктуры, інжынерных паслуг — **8 млн 145,1 тысячы** рублёў.

Менш за ўсіх у Беларусі зарабляюць сацыяльныя работнікі і педагогі.

Паводле афіцыйных даных сярэдняя зарплата ў чэрвені ў сацыяльнай сферы склала ўсяго **3 млн 16,5 тыс. рублёў,**

— у адукацыі — 3 млн 613,9 тыс.,

— у гасцінічным і рэстаранным бізнесе — 3 млн 702,7 тыс.,

— у рамонце бытавых вырабаў і прадметаў асабістага карыстання — 3 млн 715,4 тыс.,

— у тэкстыльнай і швейнай вытворчасці — 3 млн 873,8 тыс.,

— у жывёлагадоўлі — 3 млн 888,7 тыс.,

— у дзейнасці, звязанай з кіна-і відэафільмамі, — 3 млн 987,2 тыс.,

— у дзейнасці па арганізацыі адпачынку і забаў, культуры і спорту — 3 млн 996,5 тысячы рублёў.

ПРАГНОЗ

## Уладальнікаў дарагіх машын паболее?

*Мінскі салон "Porsche" абвясціў аб пачатку афіцыйных продажаў новага Porsche Panamera. Кошты пачынаюцца ад 93 тысяч 400 еўра.*



Жадаючых набыць такое аўто ўжо ёсць, сцвярджаюць у салоне. Праўда, канкрэтную лічбу назваць адмаўляюцца. *"Гэта інфармацыя не для прэсы,* — заявілі нам у салоне. — *Ёсць заяўкі і ад фізічных асоб, і ад юрыдычных".*

Напэўна, нічога дзіўнага ў гэтым няма. Па нашых дарогах бегаюць аўтамабілі і больш дарагія. Напрыклад, Aston Martin Rapid за 160 тысяч еўра альбо Bentley Mulsanne, кошт якога зараз дасягае 460 тысяч долараў. Праўда, такіх машын адна-дзве на ўсю краіну.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НУ І НУ!

## У Глыбокім з'явілася «дошка ганьбы»

*Такі арыгінальны спосаб барацьбы з лайдакамі, п'яніцамі і дэбашырамі абралі чыноўнікі Глыбокага Віцебскай вобласці.*

Фотаздымкі мясцовых жыхароў, што былі раней судзімыя, злоўжываюць алкаголем, пазбаўлены бацькоўскіх правоў і вядуць антыграмадскі лад жыцця, вісяць на "дошцы ганьбы" побач з будынкам Глыбоцкага аддзялення міліцыі.

Мясцовыя жыхары кажуць, што, здаралася, партрэты на "дошцы ганьбы" зафарбоўвалі, але чыноўнікі вярталі іх на ранейшае месца.

АРЭНДА

## Жылля кватарантам у Мінску не хапае

*Восенню за арэнду сталічнай аднапакаёвай кватэры гаспадары могуць папрасіць 500 долараў*

Цэны на здымнае жыллё растуць літаральна кожны месяц. Яшчэ ў чэрвені ў Мінску можна было знайсці аднапакаёвую кватэру за 280—300 долараў у месяц. Зараз кошты дасягнулі 370—400 долараў. І эксперты сцвярджаюць, што гэта не апошняя цана.

Намеснік генеральнага дырэктара Цэнтра гандлю нерухомасцю "ПАКАДАН" **Аксана Лукашэвіч** выказала журналістам меркаванне, што ў трэцяй дэкадзе жніўня і ў верасні ў Мінску чакаецца чарговая хваля ажыятажнага попыту на здымныя кватэры. Магчыма, тады сярэднія цэны арэнды бюджэтных кватэр павялічацца яшчэ на 50—100 долараў. На думку эксперта, падаражанне справакуюць не толькі студэнты і маладыя спецыялісты пасля ВНУ, але і новыя работнікі буйных супермаркетаў Мінска. Больш за тое, Аксана Лукашэвіч упэўнена, што сур'ёзны недахоп аб'ектаў прыватнай жыллёвай арэнды будзе назірацца ў Мінску ад 2 да 5 гадоў. І гэта пры ўмове, што ў бліжэйшы час у сталіцы будзе весціся масавае будаўніцтва новых жылых кварталаў.

БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА

*Наталля ГАРДЗІЕНКА:*

# «Беларусаў ад'язджае ўсё больш, але палічыць іх немагчыма»

***Даследчыца жыцця беларускай дыяспары Наталля Гардзіенка распавяла, з якімі праблемамі сутыкаюцца беларусы за мяжой, патлумачыла, чаму немагчыма падлічыць колькасць нашых суайчыннікаў, якія пакінулі краіну, і паразважала над тым, што трымае беларусаў разам.***

**— З якімі новымі выклікамі сутыкнуліся беларусы замежжа ў новым стагоддзі?**

— Новыя выклікі перш за ўсё звязаны з развіццём інфармацыйнай прасторы. З'явіліся новыя магчымасці, якія даюць сацыяльныя сеткі, беларусы ў розных краінах могуць падаваць вялікі пласт інфармацыі пра сябе. З аднаго боку, гэта безумоўны плюс, бо цяпер лягчэй знайсціся і шмат якія суполкі дзякуючы сацыяльным сеткам арганізоўваюць свае мерапрыемствы. Але, з іншага боку, гэта ўплывае на змяншэнне рэальнай актыўнасці — людзі добра кантактуюць праз інтэрнэт, але менш ствараюць рэальныя магчымасці для спаткання, таму разрываецца рэальная сувязь у дыяспарах.

**— Якія праблемы застаюцца злабадзёнымі заўжды і як яны вырашаюцца?**

— Самая першая неарыгінальная праблема, якая тычыцца абсалютна ўсіх эміграцыйных структур любой нацыі, — гэта праблема асіміляцыі. Для беларусаў тут ёсць праблема нацыянальнай ідэнтычнасці ў самой Беларусі, праблема нацыянальнай самасвядомасці тых, хто выязджае за межы краіны. Зразумела, калі чалавек не хоча захоўваць сваю беларускасць, ён асімілюецца хутчэй. З іншага боку, ёсць праблема інфраструктуры дыяспары — стварэнне сваіх навучальных устаноў, каб прыцягваць да беларускіх спраў наступнае пакаленне. З асіміляцыяй звязаны і той разрыў, што існуе ў дачыненнях між метраполіяй і дыяспарай. Калі сама дзяржава не зацікаўлена ў тым, каб людзі, з'язджаючы за мяжу, захоўвалі сувязь з Радзімай, то і самі людзі будуць хутчэй адыходзіць ад гэтай самай дзяржавы і больш актыўна інтэгравацца ў грамадства той краіны, у якую яны прыехалі.

**— Ці ёсць канкрэтныя звесткі, паводле якіх можна зразумець стала беларусаў у свеце меней ці болей?**

— На сёння гэтага ніхто не можа падлічыць. На пачатку 1990-х была прынята лічба, што беларусаў у свеце недзе 3—3,5 мільёна. Дагэтуль яна і фігуруе, хоць і тады была ўмоўнай. Спадар Вітаўт Кіпель падаў лічбу па Амерыцы, што там жыве каля 500 тысяч беларусаў ці іх нашчадкаў, г.зн. сюды ўключаюцца і тыя, хто рэальна жыў у Беларусі, так і тыя, хто ўжо ў другім ці трэцім пакаленні амерыканцы, але маюць продкаў і сваякоў з Беларусі. У перапісе яны не будуць фігураваць як беларусы. Па іншых краінах наогул лічбаў нават прыблізных няма. Апошнія перапісы на постсавецкай прасторы афіцыйна паказваюць, што колькасць беларусаў змяншаецца, але яны не ўлічваюць такую рэч, як нелегальная эміграцыя. Я сутыкнулася з тым, што афіцыйныя паказчыкі выезду беларусаў за межы вельмі часта не супадаюць з паказчыкамі ўезду беларусаў у іншыя краіны, яны часам адрозніваюцца ў 2—3 разы. Такім чынам, рэальныя памеры эміграцыі з Беларусі таксама дакладна адзначыць ніхто не можа. Аднак несумненна, што выезд беларусаў на працу, на заробкі, на вучобу ў апошнія гады павялічваецца. Нехта едзе, каб зарабіць грошы і вярнуцца, а нехта мэтанакіравана хоча застацца, але назваць колькасць такіх людзей немагчыма. Звесткі, якімі карыстаюцца, ідуць па лініі Міністэрства ўнутраных спраў і звязаны са зменай пашпартоў.

**— Гэта значыць, калі беларус застаўся жыць за мяжой, але свой нацыянальны пашпарт вырашае пакінуць сабе, то не лічыцца, што ён з'ехаў?**

— Так, тады ён не фіксуецца як эмігрант. І такія выпадкі даволі частыя. Беларус можа жыць у Канадзе ўжо 10 год, маючы два пашпарты, і для беларускай статыстыкі ён будзе заставацца беларусам. Падобныя сітуацыі не даюць магчымасці ацаніць рэальныя памеры эміграцыі з Беларусі.

**— Наколькі актыўна далучаюцца да беларускага жыцця за мяжой маладыя людзі, якія прыязджаюць у іншую краіну на сталае месцажыхарства?**

— У пэўнай ступені маладыя людзі далучаюцца, ёсць цікавыя менавіта маладзёжныя ініцыятывы. У Польшчы, у Чэхіі, у краінах Балтыі. Мне імпануе такі варыянт, як "Беларуская народная памяць" у Польшчы. Гэта суполка створана моладдзю, якая з'ехала ў гэтую краіну, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, часам з'ехала вымушана. Яны шукаюць беларускія месцы, аднаўляюць памяць пра беларускіх дзеячаў, шукаюць іх магілы. З аднаго боку, яны захоўваюць сваю ўласную сувязь з Беларуссю, з іншага — папулярызуюць Беларусь і беларусаў на Захадзе і даюць для метраполіі нейкія забытыя факты з яе ж гісторыі.

**— Вы згадалі Польшчу, Чэхію і краіны Балтыі, а ці паўстаюць новыя суполкі беларусаў там, дзе іх дагэтуль не было?**

— Бачыла інфармацыю пра стварэнне беларускай суполкі ў Швейцарыі, дзе на працягу XX стагоддзя не было беларускіх арганізацый. На постсавецкай прасторы паўстала арганізацыя беларусаў Грузіі, а яшчэ тры-чатыры гады таму заўважнай беларускай дзейнасці там таксама не было. Створаны беларускі цэнтр даследаванняў у Шанхаі, але пакуль складана казаць, наколькі гэта звязана з дзейнасцю беларусаў у Кітаі. З іншага боку, можна казаць, што ў некаторых краінах беларуская дзейнасць сыходзіць зусім. Напрыклад, незаўважная беларуская прысутнасць у Францыі, хаця там быў цікавы моцны асяродак у даваенны і пасляваенны час. Старыя дзеячы адышлі, а новыя ніякай актыўнасці не выяўляюць.

**— На чым усё ж трымаецца беларуская дыяспара?**

— Заўсёды цэментуючым фактарам для беларусаў замежжа была сама Беларусь, памяць пра Беларусь, пачуццё агульнай культурнай і гістарычнай еднасці. На сёння акрамя асіміляцыі вялікая праблема для беларускай дыяспары — раз'яднанасць. У адной і той жа краіне між беларусамі існуюць падзелы культурныя, палітычныя, рэлігійныя. Да гэтага спрычыняецца і дзяржаўная палітыка, якая накіравана на тое, каб выбраць лаяльныя да сучаснай улады суполкі і не зважаць на тое, што адбываецца па-за імі. Перспектывы развіцця дыяспары ў розных краінах звязаны якраз з тым, каб паспрабаваць пераадолець гэты падзел і знаходзіць тое агульнае, што аб'ядноўвае. Тое, што мы — беларусы, што ў нас ёсць агульныя інтарэсы, звязаныя з зацікаўленасцю ў тым, каб у Беларусі ўсё было добра, каб краіна развівалася, захоўвала сваю незалежнасць і свой нацыянальны каларыт. Гэта ўсё, напэўна, і ёсць тым аб'ядноўваючым фактарам, які трымае беларусаў разам. Нягледзячы на розныя палітычныя погляды, розныя магчымасці, узровень адукацыі і зацiўленасці, мы ўсе застаемся беларусамі.

**Размаўляў Мікалай ДУБАВІЦКІ.**



### Даведка

*Наталля Гардзіенка — гісторык, кандыдат гістарычных навук. Нарадзілася ў 1977 г. у Мінску. Вучылася ў школах Мінска, Саны (Емен), Ліды. Скончыла Ліцэй БДУ. У 1999 г. скончыла гістарычны факультэт БДУ. У 2003 г. абараніла дысертацыю па тэме "Становішча жынчыны-шляхцянкі ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVIII ст.".*

*Ад 2002 г. зацікавілася гісторыяй беларускай эміграцыі. Аўтар кніг "Беларусы ў Аўстраліі" (2004) і "Беларусы ў Вялікабрытаніі" (2010) ды некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый. Ад 2004 г. з'яўляецца адказным рэдактарам часопіса "Запісы БІНіМ". Сябра управы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".*

